# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 12 (1610) ГОД XXXII БЕЛАСТОК 22 САКАВІКА 1987 г. ЦАНА 12 зл.





Конкурс „Беларуская песня“ стаў ужо даўно вялікім гадавым нашым беларускім святам. І як належыцца такой урачыстасці, падрыхтоўка да яе ідзе ўвесь год, а пачынаецца яна ўжо на папярэднім аглядзе. Бо і спевакі, і кіраўнікі ды і слухачы пільна сочаць за выступленнямі: ацэньваюць, падглядаюць, прымерваюцца, абдумваюць, як самім лепш выступіць у будучым годзе. І ў гэтым шляхетным спаборніцтве няма пройгрышаў — выйгрываюць усе, павышаючы ўзровень свайго выканаўчага майстэрства, абуджаючы замілаванне да роднага ва ўсё большай грамадзе беларусаў і захапляючы іншых хараством беларускай песні.

А сэрца радуецца, што з кожным годам лепш спяваюць нашыя салісты і харысты, не шкадзяць свае працы кіраўнікі калектываў і інструктары. Вось і ў гэтым годзе, як і ў папярэднія, выяўлены з забыцця вельмі цікавыя па зместу і мелодыцы народныя песні, якія яшчэ не трапілі ў ніводзін фальклорны зборнік. Асабліва з цікавымі творамі выступілі сёлета Валянціна і Сымон Лукшы з Семяноўкі гм. Міхалова, Аляксандр Гумяняк з Агароднікаў гм. Сямятычы, калектыў „Дваранкі“ з хутароў Хільмоны гм. Новы Двор, „Дружба“ са Старога Корніна гм. Дубічы-Царкоўныя і інш. Любіцелям сучаснай беларускай аўтарскай песні запрапанавалі новыя, амбітныя аранжыроўкі Сяргей Лукашук, Аля Дубец, а Пятро Скепка да таго аздобіў свае славутыя „Дубіны“ вельмі зграбным дзявочым карагодам. З асабістай творчасцю выступілі сёлета мужчынскі хор з Рыбалаў, які праспяваў дзве балады свайго харыста Мікалая Ігнацюка з музыкай да іх кіраўніка калектыву Пятра Нявінскага. Таксама дуэт Валянціна Леўчук і Ніна Савіцкая з Тынявіч гм. Нарва спявалі свае ўласныя кампазіцыі. Вітаем такі творчы падыход да конкурсу і чакаем новых здзяйсненняў!


Аля Дубец з Беластока.

Вельмі цешыць тое, што ў конкурсе ўдзельнічае ўсё больш моладзі і то таленавітай, прыгожай, працавітай, і не толькі дзяўчаты, якія болей адважна выходзяць на сцэну, але таксама і хлопцы. Пры тым надта ж добра, што ветэраны беларускага спявачага руху не спыпаюцца на спачынак, а сваёй ахвярнай дзейнасцю даюць мабілізуючы прыклад маладым.

Нельга не заўважыць, што выдатна павысілася сцэнічная культура нашых аматараў. Змяніліся таксама слухачы — высока цэняць родную песню, смакуюць у ёй, з належнай пашанай адносяцца да ўсіх выканаўцаў, а найлепшых заслужана ўзнагароджваюць громам апладысментаў, просяць выступленняў „на біс“. Так, цяпер „Беларуская

(Працяг на стар. 3)


Мужчынскі хор з Рыбалаў.

## ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА

Сям'я „дзяцей з Каракуліна“, якія ўжо адгукнуліся на мае пошукі, увесь час павялічваецца. Нядаўна, у Варшаве, у яго прыватным памяшканні, сустрэўся я з Рамуальдам Зайкоўскім, афіцэрам польскай контрразведкі. Аб гэтым, аднак, іншым разам. Першы на маю просьбу адклікнуўся радавіты беластачанін **Генрык Малышка** і яму я ў першую чаргу даю сёння голас.

— Канчаў я пяты клас савецкай дзесяцігодкі, — успамінае ён. — Вучылі нас на беларускай мове. Аднак, польская мова таксама навучалася ў гэтай школе, але толькі як прадмет.

Малы Генрык выдзяляўся сярод сяброў сваёй непаседлівасцю і энергіяй, яму неабходна было штосьці рабіць. Таму, магчыма, апынуўся ён у піянерскай арганізацыі. А ў літоўскіх Друскеніках, зусім недалёка ад Беластока, ужо другі раз пры Савецкай уладзе, ладзіўся піянерскі лагер.




— Мой бацька працаваў камінаром, — кажа Генрык Малышка. — І са сваёй „арцелі трубачыстаў“ (так ён назваў сапраўднае месца працы свайго бацькі) прынёс дадому вестку, што я магу атрымаць накіраванне ў піянерскі лагер. Я, вядома, аж падскочыў з радасці. Патрабавалася толькі падтрымка ад школьнай піянерскай арганізацыі. Наш піянерважаты мяне любіў, бо я яму шмат у чым дапамагаў у яго грамадскай дзейнасці дык выставіў ён мне самую выдатную даведку.

У даваенны час у Друскеніках адпачывалі багатыя людзі. Для сына камінара і хатняй гаспадыні, вядома, месца там не магло быць. Сярод глыбокіх, абрывістых берагоў плыў шырокі Нёман, лес чаргаваўся з прынёманскімі лугамі. Цудоўна свяціла сонца. Важатыя ахвярна ажыццяўлялі багатую праграму. Кармілі выдатна. Кампанія сабралася вясёлая, дружная.

— Яшчэ сёння памятаю Лёню Чарлёнчыкевіча, беларуса па нацыянальнасці, які загінуў пад Леніна. Памятаю таксама Тадзіка Шмайду і Тадзіка Лясоцкага, і Эдзіка Станішэўскага, і Пасьмяна, зараз, як яго звалі? — задумаўся Генрык Малышка. —

(Працяг на стар. 6)




(Працяг са стар. 1)

песня“ — гэта сваё, мілае сэрцу шоу.

І то таксама цэнтральны, як і ўсе сёлетнія пяць раённыя агляды. У Беластоку на раённым аглядзе 15 лютага г.г. выступіла 6 салістаў, 3 дуэты і 9 калектываў — разам 56 чалавек, спявалі каля 3 гадзін, а тэатральная зала Маладзёжнага дома культуры на вул. Варшаўскай была біткам набіта слухачамі, пераважна моладдзю. Таксама вялікая зала Бельскага дома культуры 22 лютага г.г. ледзь змясціла ахвотных паслухаць блізкія сэрцу мелодыі, а на гэтым раённым аглядзе выступіла 4 салістаў, дуэт, пяць калектываў — разам 52 спевакоў і музыкаў. У Гайнаўцы агляд адбыўся ў дзвюх ратах — 15 і 22 лютага г.г. і ўсё пры поўных залах. Прыняло ў ім удзел 2 салістаў, 4 дуэты, 15 калектываў — разам каля 150 спевакоў і музыкаў. 22 лютага г.г. упершыню адбыўся раённы агляд у Дуброве, на ім выступіла салістка і чатыры калектывы з паўночных гмін Беласточчыны, зала кінатэатра „Лотас“ была поўная, слухачы сардэчна павіталі таксама пазаконкурсныя выступленні. 21 лютага г.г. у Сямяціцкім доме культуры спявалі саліст і тры калектывы, таксама для поўнай залы.

Нашыя спевакі ўжо лічаць сваім абавязкам штогод удзельнічаць у аглядзе. Напрыклад, некалькі спявачак з Дабрывады, што каля Кляшчэль, хварэла якраз тады, калі ішлі агляды ў Гайнаўцы. Але як толькі яны ачунялі, дык адразу паімчаліся ў Сямяцічы і там усё ж выступілі на аглядзе і то ўдачліва — іх заквваліфікавалі ў Беласток. Незвычайную ахвярнасць і настойлівасць праяўляюць нашыя сябры з Гданьска — нягледзячы на халадэчу ды далеч кожны год прыязджаюць у Беласток з новымі творамі і штораз лепш падрыхтаваныя. У бягучым годзе яны працавалі пад кіраўніцтвам Ірэнеуша Лаўрашука — маладога, здольнага дырыжора, што і відаць было па салідная падрыхтоўцы салістак, дуэта і хора, з якімі ён выступіў у Беластоку. Шкада, што за прыкладам гданьчан і дабрывадак не пайшлі нашыя сябры з Варшаўскага аддзела БГКТ — яны зноў абяцалі прыняць удзел у аглядзе, але чамусьці мы не пачулі іхняга спявання на свяце нашай роднай песні.

А на цэнтральным аглядзе конкурсу „Беларуская песня — 87“, які праходзіў 28 лютага г.г. у Беластоцкай філармоніі, журы пад старшынствам Анджэя Дырдала — віцэ-дырэктара аддзела культуры і мастацтва Ваяводскай управы пры ўдзеле Юзэфа Зыська — музычнага кіраўніка Ваяводскага дома культуры і Мікалая Гайдука — намесніка галоўнага рэдактара „Нівы“ мелі нялёгкае заданне. Агляд працягваўся больш за сем гадзін, у ім выступіла 16 салістаў, 7 дуэтаў, 5 вакальна-інструментальных і 26 вакальных калектываў — разам больш за 200 спевакоў і музыкаў, якія выканалі 106 самых разнастайных твораў.

У катэгорыі **фальклорных неапрацаваных песень і падрыхтаваных** без інструктара **першае** месца заняў жаночы калектыў з **вёскі Чаромха; два** раўназначныя **другія** — жаночы калектыў **„Дружба“** са Старога Корніна, гм. Дубічы-Царкоўныя і дуэт **Раіса Тынявіцкая і Лідзія Янчук** з Беластока; **два** раўназначныя **трэція — Аляксандр Гумяняк** з Агароднікаў гм. Сямяцічы і калектыў **„Рабіна“** з вёскі Грабяні гм. Дуброва; **адзначаны** калектыў **„Дваранкі“** з хутароў Хільмоны гм. Новы Двор.


„Крынічка“ з Бельска.

У **фальклорнай апрацаванай песні** занялі: **першае** месца — мужчынскі **хор з Рыбалаў** гм. Заблудаў; **другое — Эльжбета Рыжык,** вучаніца Бельскага беларускага ліцэя; **трэцяе** — жаночы **калектыў з Дашоў** гм. Кляшчэлі.


Ірына Гаданьчук з Гданьска.

У **фальклорнай па-сучаснаму аранжыраванай песні** занялі: **першае** месца — **мужчынская група Гайнаўскага беларускага хора; два** раўназначныя **другія — капэла з карагодам з Дубін** і калектыў **„Крынічка“** з Бельска: **два** раўназначныя **трэція** — калектывы: **змешаны з Беластока** і **жаночы з Орлі; адзначаны** — калектыў **„Бярозкі“** з Кнарыдаў гм. Бельск і **саліст Валодзя Сахарчук** з Бельскага беларускага ліцэя.

У **сучаснай песні без аранжыроўкі** занялі: **першае** месца — калектыў **„Тыневічанкі“** з Тынявіч гм. Нарва, **другое — дуэт Валянціна Леўчук і Ніна Савіцкая** з тых жа Тынявіч, **трэцяе — Мікалай Лопух** з Орлі.

У сувязі з вялікай колькасцю выкананых на высокім узроўні твораў журы вырашыла кваліфікаваць **у катэгорыі сучаснай аранжыраванай песні** ў некалькіх групах. **Сярод салістаў два** раўназначныя **першыя** месцы занялі **Аля Дубец** з Беластока і **Міхась Артышэвіч** з Кляшчэляў; **другое — Люба Гаўрылюк** з Беластока; **трэцяе — Ірына Гаданьчук** з Гданьска. **У дуэтах і малых калектывах: першае** месца — **трыо Душпастырства праваслаўнай моладзі з Беластока** ў складзе **Аля Дубец, Міраслава Кішкель і Багдан Пура; другое — дуэт Люба Гаўрылюк і Аля Дубец** з Беластока. **У вакальна-інструментальных калектывах: першае** месца — **калектыў „Васілёчкі“** з Бельскага дома культуры: **другое — калектыў з Гайнаўскага дома культуры; трэцяе** — калектыў **„Дубіны“. У вакальных калектывах: два** раўназначныя **першыя месцы — „Дзявочыя ноткі“** з Бельскага беларускага ліцэя і **калектыў Душпастырства праваслаўнай моладзі** з Беластока; **два** раўназначныя **другія — „Жаваранкі“** з Гданьска і **жаночая група Беластоцкага беларускага хора;** два раўназначныя **трэція — хор з Гарадка** і **„Чарамшына“** з Чаромхі; **адзначаны „Цаглінкі“** з Ляўкова гм. Нараўка.

**Галоўную ўзнагароду** конкурсу „Беларуская песня-87“ — экскурсію ў СССР — атрымаў **Міхась Артышэвіч** за выдатна праспяваную „Зорку Венеру“ і „Жыў на свеце Лявон“, а таксама за шматгадовую ахвярную працу з беларускімі харавымі калектывамі. **Спецыяльную ўзнагароду „Нівы“** за найлепшае сольнае выкананне народнай песні атрымала якраз **Э. Рыжык,** а спецыяльная **падзяка** была выказана **М. Ігнацюку і П. Нявінскаму** за створаныя імі ў беларускай народнай традыцыі дзве балады, якія спяваў на аглядзе калектыў з Рыбалаў.

На жаль, фонд узнагарод быў невялікі, і журы дзяліла яго на амаль сімвалічныя сумы, бо тых, хто заслугоўваў узнагароды, было многа, як гэта відаць па занятых імі мясцах. Свае ўклады ў фонд узнагарод унеслі: аддзел культуры Ваяводскай управы — 40 тысяч зл.; Галоўнае праўленне БГКТ — 20 тыс. зл. і 40 экземпляраў кнігі „Беларуская кухня“; завод № 1 камбіната „Ухвыты і Ваяводскі спажывецкі каапператыў „Сполэм“ — па 10 тыс. зл.; Ваяводскі дом культуры і Прадпрыемства па распаўсюджанню прэсы — па 5 тыс. зл; Ваяводскае праўленне Саюза процііпажарных каманд — 5200 зл.; Ваяводскае праўленне ЗСМП — 3 тыс. зл., „Ніва“ — 2950 зл. Шчырае дзякуй ім і за тое.

Нягледзячы на масавасць і іншыя цяжкасці агляд праходзіў зладжана, яго арганізацыя была добрая. Спраўна вялі агляд маладзенькія канферансье — вучні Бельскага беларускага ліцэя Г. Васіленка, Я. Лапінская і М. Тапалеўскі і Бельскага сельскагаспадарчага тэхнікума — Ю. Шурбак.

І ўдзельнікі, і журы і слухачы згодна сцвярджалі, што сёлетні, ужо XVIII па ліку, конкурс „Беларуская песня“ з усіх дагэтуляшніх быў на найвышэйшым узроўні і самым масавым. І нездарма, яму ж споўнілася якраз 18 год і ён увайшоў у дарослацсь!

Ігнат Снарскі
Фота Спргея Грынявіцкага

## БЕЛАРУСІКІ

**1981**

Aksamitau Anatolij, Biełaruskaja frazieałohija. Mińsk 1978. Rec. Piętek Halina, „Rocznik Slawistyczny", t. 41, 1981, cz. 1, s. 123—125.

Antologia poezji białoruskiej. Oprac. Jan Huszcza. Wrocław 1978. Rec. Stus Teresa, „Slavia Orientalis", 1981, nr 3, s. 377—381.

Bułyko Aleksander, Zapadnyje zaimstwowanija iz sfiery rieligioznoj żyzni w starobiełorusskom jazykie. „Rocznik Slawistyczny", t. 41, 1981, cz. 1, s. 65—80.

Czurak Maria, Wróblewski Mikolaj, Pieśni ludowe z południowej części Białostocczyzny. „Studia Polono-Slavica-Orientalia, Acta Litteraria", 1981, t. 7, s. 311—332.

Hajduk Mikołaj, Białoruskie wiosenne pieśni obrzędowe na Białostocczyźnie (oraz) Teksty i zapisy nutowe. „Studia Polono-Slavica-Orientalia. Acta Litteraria", 1981, t. 7, s. 279—310.

Janowicz Sokrat, Cierpki smak. Tłum. z białor. Zygmunt Trziszka. „Magazyn Kulturalny", 1981, nr 3, s. 47—48.

Kosman Marceli, Historia Białorusi. Wrocław 1979. Rec. Grigajtis Krzysztof. „Przegląd Historyczny", 1981, z. 2, s. 323—325; Rachuba Andrzej. „Zapiski Historyczne", 1981, z. 3, s. 167—172.

Miacielskaja Jeudakija, Kamarouski Jauhien: Biełaruskaja dyjalektałohija. Chrestamatyja. Mińsk 1979. Rec. Fałowski Adam, „Slavia Orientalis", 1981, nr 4, s. 436—439.

Ochmański Jerzy, Polish studies on the economic history of Byelorussia in the period of fedalism. „Studia Historiae Oeconomicae", vol. 16, 1981, s. 81—94.

Połnoje sobranije russkich letopisiej. T. 35. Letopisi biełorussko-litowskije. Moskwa 1980. Rec. Sielicki Franciszek, „Slavia Orientalis", 1981, nr 3, s. 359—360.

Raczek Tomasz, Od Mickiewicza do Bryla. (Literatura białoruska). Korespondencja z Mińska. „Rzeczpospolita", 1982, nr 116, s. 4, il.

Sielicki Franciszek: Białoruskie ballady i pieśni obyczajowo-rodzinne śpiewane na zapustnej huśtawce. „Studia Polono-Slavica-Orientalia. Acta Litteraria", 1981, t. 7, s. 75—92 (z nutami).

— Doroczne pieśni obrzędowo-religijne śpiewane w okresie międzywojennym w b. powiecie wilejskim. Jak wyżej s. 93—112.

— Białoruskie ludowe pieśni miłosne z b. powiatu wilejskiego. Jak wyżej s. 113—140.

Smułkowa Elżbieta, Białoruskie kudr'avy to nie zawsze „kędzierzawy". „Acta Baltico-Slavica", t. 14, 1981, s. 241—244.

Stępień Stanisław, Działalność posłów białoruskich w Sejmie RP w latach 1922—1927. „Studia Historyczne", 1981, z. 2, s. 261—276.

Sztychow Gieorgij, Goroda Połockoj ziemli (IX—XIII ww.) Mińsk 1978. Rec. Jarmolik Włodzimierz, „Przegląd Historyczny", 1981, z. 3, s. 541—544.

Tomaszewski Jerzy (Polemika do rozdziału Jana Borkowskiego poświęconego mniejszościom narodowym w Polsce międzywojennej. W: „Historia Polski", Cz. 3, T. 4). Biuletyn Żydowskiego Instytutu Historycznego w Polsce, 1981, nr 1, s. 96—98.

Tomaszewski Jerzy, We wspólnym domu (Białorusini). „Polityka", 1981, nr 49, s. 3, il.

Żurauski Arkadź. Polskija elementy u paradyhmie dziejasłowa starabiełaruskaj piśmiennasci. „Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej", t. 20, 1981, s. 253—360.

**P.C.**

### ПРЫКАЗКІ

Ад навукі галава не баліць.

*

Барада вырасла, а вума не вынесла.

*

Благая кампанія і добрага псуе.

*

Век жыві і век вучыся.



# РЫБАЛАЎСКІЯ ЖАНЧЫНЫ

Гурток вясковых гаспадынь (КГВ) у Рыбалах, што ў Заблудаўскай гміне, мае на сваім рахунку шмат дасягненняў у павышэнні неабходных у штодзённым жыцці ведаў і кваліфікацый жанчын. Праводзіліся тут рознага роду кулінарныя курсы (мясныя вырабы, пячэнне, вегетарыянскія стравы і іншыя), курсы рацыянальнага харчавання, кройкі і шыцця, гафту і другія. Штогод летам, калі настае жніво і жанчыны ідуць у поле, яны сваіх дзяцей адпраўляюць у апеку выхавацельніц у дзяцінец.

Старшынёю КГВ у Рыбалах Ніна Нікалаюк, якая ўжо шмат гадоў працуе тут у пункце „Практычнай гаспадыні“. Дзякуючы яе арганізатарскім здольнасцям вядзецца значная работа. Вось некалькі прыкладаў з плана працы ў бягучым годзе. Запланавана спатканне з прадстаўнікамі гмінных улад на тэму вясковага самакіравання. Прадбачана 10 дакладаў пра ахову здароўя жанчын. З імі выступіць медыцынскі персанал асяродка аховы здароўя. На заканчэнне гэтага курса будзе наладжана экскурсія. Будзе таксама праведзена ацэнка санітарнага стану вясковых сялібаў, каб павысіць гігіену ў вёсцы.

Тут наладжваюцца ўрачыстасці з нагоды Свята жанчын, Дзён маці, дзіцяці, бабулі. Гурток таксама апякуецца пяццю старымі самотнымі асобамі.

Палітычна-грамадская тэматыка займае ў плане працы шмат месца. Да яе належаць спатканні з цікавымі людзьмі і ТППРаўская праца. Варта падкрэсліць, што ўсе члены КГВ з'яўляюцца членамі Таварыства польска-савецкай дружбы.

Рыбалаўскі пункт „Практычнай гаспадыні“ ў мінулым годзе заняў другое месца ў ваяводстве па грамадскай дзейнасці і выкананні паслуг. Людзі часта звяртаюцца да яго, каб пазычыць талеркі, відэльцы, шклянкі, розны посуд на вяселлі, хрысціны ці іншыя сямейныя ўрачыстасці.

Н. Нікалаюк кажа, што ў бягучым годзе прызначана на дзейнасць пункта „Практычная гаспадыня“ 272 тысячы зл. Фінансавая падтрымка дапамагае ў разгортванні работы сярод жанчын на вёсцы, каб была яна на высокім узроўні і каб яшчэ больш можна было наладжваць цікавыя мерапрыемствы.

**Міхась Хмялеўскі**



**Рыбалаўскія жанчыны са старшынёю гміннага праўлення ТППР у Заблудаве Іванам Хлябічам, які часта ў іх выступае з дакладамі і гутаркамі. Ніжэй, справа, старшыня гуртка КГВ Ніна Нікалаюк.**

## МАРЫЛЯ

— Бачыш... Дзе ж падзелася тое тоненькае праставалосае дзяўчо? Валасы спаліла „андуляцыя“, павіс пасля родаў плоскі раней жывот, набрынялі ногі. Але і так ён, Янка, заўжды вяртаецца да мяне, да сваёй астоі, да логава, куды ворагам няма доступу.

Як табе здаецца, гледзячы на мяне... Кажаш, дзеці. Зайздросціш? Год за годам растуць у маіх вачах. Кожны іх годзік лёг мне на плячах. Каб Янка быў іншы, такі як у першы год, як пасля нараджэння Паўліка, не паблеклі б мае вочы ад слёз. І ўсё думка: дай Божа жыць мне для іх, каб сіратамі не засталіся. І чапляюся гэтай думкі, будучыні сваіх дзяцей, Янкавай, маёй надзеі.

...Ужо ляпей было б, каб нас зусім пакінуў. Але сам заплача: „Люблю вас, — кажа, — не пакідайце мяне, калі мяне Бог пакінуў“. Як я яго пакіну, забраўшы дзеці, калі ў яго і ў цвярозага слабая галава? У яго паперы ёсць, што ён неўраўнаважаны эмацыянальна, і нейкія маніі...

...З другога боку... Страх, што нас пазабівае, ці што. Суседкі кажуць: пашлі яго ў Харошчу, няхай лечаць. Але не такі ж ён зусім хворы... ці дурны! Даў мне ў твар, саромеўся, што ў жонкі фанары, цяпер б'е па валасах, тады нічога не відна. Гэта тады, калі яму здаецца, што я ўсяму вінавата. І моўчкі б'е, без крыку. Навучылася я зубы шчыміць.

Грошай дае трохі, як дзе заробіць. Але дзе ён доўга пабудзе, калі такі канфліктны. Апошні час, як пасварыўся з шэфам (працаваў у прыватнай фірме, добра плацілі), даў яму лекцыю па палітэканоміі. Гэта яму засталося з вышэйшай школы. Ты памятаеш, выкінулі яго дысцыплінарна, за разбой. Напаў з сябрамі і пабіў нейкага мужчыну пад „Каўнасам“. Не для грошай, так сабе. Я тады хадзіла ўжо Паўлікам... Чацвёрты месяц.

Вядома, як гэта бывае, калі хлопец улезе дзяўчыне ў сэрца. Янка здаваўся мне такім незвычайным, нервовым, гарачым, Йоганам яго звалі. Адначасова сумны, глыбокі, і — „душа кампаніі“. Прыгожа танцаваў, цудоўна дыскутаваў. Дзяўчаты за ім шалелі. Па лацінскай мове нават на пахмеллі хапаў пяцёркі. На ўроках, калі ўжо быў у школе, і ў клубе не было дасціпнейшага і спрытнейшага. Ну, тады так многа яшчэ не піў. Колькі можна выпіць са стыпендыі і матчыных грошай, часам з

(Працяг са стар. 1)




На жаль у гэты момант не прыгадаю... Была там яшчэ Вандзя Паўлючук і Латоўская, здаецца, Міра. Былі, вядома, і іншыя нашы сяброўкі і сябры. Мы ж лічылі сябе тады амаль кавалерамі і прабавалі ўжо заляцацца да нашых піянерак...

Зараз амаль 60-гадовы Генрык Малышка, рослы мужчына, са зрэдку пасівелымі валасамі, майстар па танцах, шчыра смяецца з наіўнасці 13-гадовага Гены Малышкі, забыўшыся, што ўжо і тады вылучаўся ён у кампаніі аднагодкаў сваім стройным выглядам, які вабіў зрок падрастаючых паненак. Яго любілі і яму давяралі. Гена быў звеннявым піянерскага атрада.

— Цудоўныя былі гэта канікулы! — яшчэ і цяпер захапляецца пан Генрык. — Пачаліся яны для мяне 1 чэрвеня 1941 года. Час праходзіў бестурботна аж да 22 чэрвеня. Была нядзеля. Жылі мы ў колішніх дачных доміках. Па адным звяну ў пакоі, значыць, 6-8 чалавек, у залежнасці ад таго, колькі было спальных месц. Разбудзілі нас, як заўсёды ў выхадныя дні, крыху пазней. Паставілі „на лінейку“ (раннюю пераклічку). Дырэктар лагера, настаўнік Самуіл Маркавіч Пеўзнер, прыняў рапарт ад важатых аб колькасным саставе паасобных піянерскіх атрадаў, дружна грымнулі мы: *„Піянер заўжды гатоў!“* і разбегліся да сваіх заняткаў.

Пра вайну ані слова, хаця высока пад хмарамі з цяжкім стогнам ляцелі нейкія самалёты, а далёкае рэха ад поўначы прыносіла адгалоскі выбухаў. Пасля высветлілася, што гэта немцы ўжо бамбілі Вільнюс. Ім, аднак, гаварылі, што гэта ваенныя вучэнні Чырвонай Арміі, проста „манеўры“.

— У лес нас ужо не пусцілі, — расказвае Генрык Малышка. — Атрад перапынілі працаўнікі НКВД і загадалі важатым вяртацца назад у лагер. Мы накіраваліся на прынёманскі пляж. Купаліся, загаралі, гулялі... Аж да абеда, не ведаючы, якая пагроза павісла над намі. Абед таксама прайшоў спакойна і бестурботна. А пасля абеда абавязвала гадзіна цішыні. І вось тады дырэктар Пеўзнер выклікаў да сябе піянерважатых і звеннявых.

Аб'явілі трывогу. Важатыя рыхтавалі дзяцей да неадкладнай эвакуацыі з лагера. Было загадана пакінуць на месцы ўсе менш важныя асабістыя рэчы, каб замест іх забраць на дарогу як мага больш усялякага харча-

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W związku z artykułem, zamieszczonym w „Niwie” Nr 2 z dnia 11.I.1987 r. w sprawie nieterminowo wykonanej usługi parowania ziemniaków Ob. Walentemu Siemieniukowi — Wojewódzki Związek Rolników Kółek i Organizacji Rolniczych w Białymstoku przeprowadził postępowanie wyjaśniające w niniejszej sprawie. Stwierdzono co następuje:

— przyjęta została usługa parowania ziemniaków przez SKR od Ob. W. Siemieniuka i ustalono wstępnie datę jej wykonania na dzień 29.XI. 1986 r. Kolumna miała być dostarczona z odległego o 25 km PUM Łubin Kośc.,

— faktem jest, że kolumna parnikowa parowała ziemniaki u rolników w rejonie PUM Łubin Kośc. i nie zakończyła pracy w przewidywanym terminie,

— w czasie transportu kolumna uległa awarii. Prawdą jest, że maszyna nie była „pierwszej młodości” i po przebyciu odległej drogi w tym około 10 km drogami polnymi oderwał się komin. Po naprawie kolumny wykonano usługę Ob. W. Siemieniukowi a następnie parowano u innych rolników.

Przykro, że w wyniku awarii wykonanie usługi opóźnione zostało o 1,5 dnia, co na pewno w jakimś stopniu było przeszkodą dla rolnika, jednak przyczyny tej awarii były całkowicie niezależne od Spółdzielni Kółek Rolniczych.

Wojewódzki Związek Rolników Kółek i Organizacji Rolniczych w Białymstoku
I wiceprezes Zarządu
inż. **W. Michnowicz**

---

разгрузкі?.. Але патрапіў ляжаць тыднямі. Слухаў мяне, прысягаў. Было цудоўна. Я, старэйшая за яго дзяўчына, уклапалася дашчэнту: „Дзе ты Кай, там я Кая“. І зноў прысяті і пацалункі... Вершы пісаў, кінуў усіх сваіх „дзяўчынак“. Я канчала школу, перад дыпломам ужо былі разам. Як Паўлік нарадзіўся, не да дыпломаў мне стала...

Можа гэта найбольш мне ў ім спадабалася, што ён быў такі ва ўсім неспадзяваны. Невядома, што скажа, чым з табою падзеліцца, чым захопіцца... Ён такі быў — экспрэсіўны, амаль без скуры, драпежны, прагны ўсё новых пачуццяў, хваляваўся ўсім. А яго хвароба асвятляла, быццам, яго паводзіны.

Калі нарадзілася Анечка, было ўжо запозна, каб кінуць яго — сваё трэцяе дзіця.

**Міра Лукша**

---

# А КОЛЬКІ БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ?

З выдадзенага ў Маскве ў 1983 годзе „Географического энциклопедического словаря“ вычытаў я, што нацыянальныя меншасці ў Польскай Народнай Рэспубліцы складаюць два працэнты ўсяго насельніцтва. У падобных польскіх выданнях, а таксама школьных падручніках па геаграфіі і гісторыі напісана што Польшча — гэта дзяржава нацыянальна аднародная. Рэдка дзе дададзена, што няпольскае насельніцтва ў цяперашні час у ёй складае нязначны працэнт. Няма ніякіх лікаў, ніякіх іншых інфармацый... Нас, беларусаў, і, як думаю — прадстаўнікоў іншых нацыянальных меншасцей, такая заметка не захапляе. Кожны, напэўна, згодзіцца са сцвярджэннем, што ў пасляваеннай Польшчы, якая вярнулася ў свае пястоўскія граніцы, рашучая большасць (98 прац. усяго насельніцтва) — гэта палякі. Толькі чаму вакол нацыянальных меншасцей такая цішыня? Чаму большасць палякаў, якія жывуць у глыбіні краіны, ніколі не чула пра беларусаў на Беласточчыне. Калі ад стагоддзяў нашыя прадзеды жылі на гэтай карэнна нашай тэрыторыі, чаму цяпер некаторым здаецца, што мы — імігранты з Усходу?

Прыезджы паляк ці іншаземец, калі заўважыць пэўную культурную своеасаблівасць у беларусамоўнай часткі Беласточчыны, то тады найчасцей ставіць пытанне: „Колькі вас, беларусаў, жыве ў Польшчы?“ А мы, што ж, на такое пытанне не ведаем адказу. І толькі зрэдку хто спрабуе інтуітыўна прыдумаць нейкі недакладны лік.

Колькі нас, беларусаў, жыве ў Народнай Польшчы? Як памятаю, пытанне гэтае ставіў яшчэ мой дзед — селянін і каваль... стаўлю і я — настаўнік. Пытанне простае, элементарнае. Дзень бяжыць за днём, год за годам, а мы набліжаемся да 50-годдзя нашай няведы пра сябе. „Час, уперад!“ — сказаў бы ў гэтым месцы Валянцін Катаеў. Аж прыйдзе такі час, калі сусед суседа будзе пытаць, хто ён: муж — жонку, а сын — бацьку... А жывём жа мы ў геаграфічнай сярэдзіне цывілізаванай, культурнай Еўропы.

Гартаючы, напрыклад, найноўшае выданне калектыўнай працы пад рэдакцыяй Юзэфа Барбага „Геаграфія свету“, можна вычытаць, што па перапісу насельніцтва СССР у 1970 годзе лік палякаў складаў там 1167 тысяч чалавек, што ў ЧССР у паўднёвай Славакіі жыве 589 тыс. венграў, ва ўсходняй Славакіі — 49 тыс. украінцаў, у Цешынскай Сілезіі — 76 тыс. палякаў, у заходняй і паўночнай Чэхіі — 79 тыс немцаў. У „Геаграфіі свету“ знойдзем, колькі ў ГДР жыве лужычан, у Югаславіі — венграў і албанцаў, у Іспаніі — каталонцаў, галісійцаў і баскаў, у Францыі — эльзасцаў, брэтонцаў, фламандцаў, карсіканцаў, каталонцаў, баскаў і г.д.... Спецыфічнай моўнай і этнічнай групай у Скандынавіі з'яўляюцца лапландцы (даўнейшая назва — саамы). Гэты найчасцей яшчэ качэўніцкі народ займаецца гадоўляй паўночных аленяў і свабодна перамяшчаецца па паўночных тэрыторыях Нарвегіі, Швецыі і Фінляндыі. Пераходзячы дзяржаўныя межы, лапландцы летам жывуць у Скандынаўскіх гарах у Нарвегіі, а зімой са сваімі статкамі сыходзяць на раўніны паўночнай Швецыі і Фінляндыі. Палічаны яны, аднак, і падаецца, што ў Фінляндыі жыве іх каля 3 тысяч, у Швецыі — 10 тысяч, у Нарвегіі — 20 тысяч. Калі ласка, чытачы заўважце, што лік насельніцтва падаецца найчасцей з прыблізнасцю да 1 тысячы асоб. Калі аднак гаворыцца пра насельніцтва Польшчы, няма пра меншасці ніякай інфармацыі. А нас, самых беларусаў, жыве ў Польшчы некалькі разоў больш, як лапландцаў у скандынаўскіх краінах.

Колькі ж нас ёсць у Польшчы? Марцэлі Косман у выдадзенай у 1979 годзе „Гісторыі Беларусі“ ў раздзеле „Беларусы ў сучаснай Польшчы“ піша, што ў 1956 годзе на Беласточчыне ў паветах Беласток, Бельск-Падляшскі, Гайнаўка і Саколка жыло 150 тысяч беларусаў. Але сваю характарыстыку нашай сучаснасці практычна закончыў на 1956 годзе. Няўжо вядомаму гісторыку, аўтару школьных падручнікаў па гісторыі не хапала сіл, каб шырэй зацікавіцца нацыянальнай меншасцю, якая жыве ў яго айчыне? У некаторых рэгіянальных турыстычных даведніках лік беларусаў на Беласточчыне падаецца як 130, 120 ці 100 тысяч. А некалі чуў я таксама аб ліку 200 або 250 тысяч. Вялікія розніцы паміж лікамі сведчаць аб поўным няведанні.

Магніт нашай беластоцкай турыстыкі — гэта татары. Прыязджаючых у Беластоцкі край у турыстычных бюро інфармуюць зразу пра Татарскі шлях. Пра татараў гаворыцца і пішацца цёпла і з сентыментам. Нічога я супраць такіх адносін не маю і адкрыта падтрымліваю паводзіны праваднікоў і аўтараў турыстычных інфарматараў, „бо ведаю, што якраз тыя татары, што пасяліліся на Беласточчыне, у гісторыі Польшчы адыгралі немалую ролю. Ніколі дагэтуль не быў я ў Крушынянах ці Багоніках, але ведаю, што сапраўдных татараў там ужо, мабыць, няма. Гэтая колькасна малая нацыянальнасць змяшалася з мясцовымі беларусамі і ў штодзённым жыцці карыстаецца беларускай мовай. Таму сёння бадай што трэба гаварыць пра татара-беларусаў ці беларуса-татараў. Культура татарскай нацыянальнай меншасці ўжо даўно страціла свае віталістычныя сілы і можа таму ў некаторых спецыялістаў па турыстыцы родзіцца сентыментальнасць, асаблівая ўражлівасць. Не дай Бог, праз некалькі дзесяткаў гадоў могуць пісаць гэтак і пра нас!..

А ўжо турыстам, якія, напрыклад, з Беластока, праз Бельск-Падляшскі і Гайнаўку, едуць у Белавежу, мабыць толькі некаторыя праваднікі гавораць, што ў гэтым кутку Польшчы жыве беларускае насельніцтва. Ніхто, аднак, гэтага шляху не называе „беларускім“, няма таксама шляху Яраслава Мудрага. Пра нас праваднікі ды і інфарматары ведаюць вельмі мала...

**Юрка Баена**

---

вання. З лагера на станцыю ў Друскеніках было далекавата, некалькі кіламетраў. Ніякага транспарту яны не мелі.

— Зрывалі мы з падушак навалачкі і ў іх сыпалі муку, крупу, соль, цукар, ладавалі хлеб, — расказвае Генрык Малышка. — Старэйшым хлапчукам далі ў рукі цяжкія кускі саланіны і мясных вырабаў. Мне, для прыкладу, трапіўся вялізны кумпяк, вагою больш 5 кг. Рукі млелі ад гэтага цяжару. Дзеці плакалі. Кідалі па дарозе свой багаж. Я таксама недзе згубіў свой кумпяк, чаго пазней не мог нашкадавацца, калі ў далейшай дарозе кішкі скручваліся з голаду...

Вялізная калона, лікам у звыш 200 стомленых дзяцей, падвечар, 22 чэрвеня 1941 года, дабрыла на невялічкі вакзал у Друскеніках, злілася там са шматлікім натоўпам усялякіх уцекачоў, якія намагаліся вырвацца з прыгранічнай зоны. Ніякага цягніка яшчэ не было. У трывожным чаканні праходзіў час. А над галавамі на ўсход і на захад снавалі цяжкія бамбардзіроўшчыкі. Далёкія, на шчасце, выбухі бомб злавесным рэхам урэзваліся ў вушы...

Адным зыходным плацдармам гітлераўскай агрэсіі на Савецкі Саюз быў прыгранічны раён Сувалкаў, якія знаходзіліся пад фашысцкай акупацыяй ад верасня 1939 года. Тут гітлераўскае камандаванне засяродзіла свае 9-ю механізаваную і 3-ю танкавую арміі. 5 і 8 армейскія карпусы гэтых армій якраз наступалі ў напрамку на Ліду і Скідаль. На іх смерцяносным шляху знаходзіліся Друскенікі. Ад тадышняй граніцы гітлераўскай Германіі да гэтай адпачынкавай мясцовасці ў Савецкай Літве адлегласць у простай лініі мала чым перавышала 50 км. Пагроза нарастала з кожнай мінутай. Толькі дзеці аб гэтым нічога не ведалі. Яны хацелі дамоў, да сваіх бацькоў. Плакалі, крычалі. Іх трывожныя галасы зліваліся з аднастайным гудам усяго натоўпу.

Падагналі цягнік. Народ бязладнай грамадою заатакаваў яго. Ніхто не азіраўся на дзяцей, кожны перся, каб хаця адной нагою зачапіцца за ступень вагона. Давялося прасіць дапамогі ў працаўнікоў аховы грамадзянскага парадку. Дырэктар Пеўзнер дабіўся таго, што энкавэдзісты пад пагрозай зброі зрабілі крыху месца для малых абяздоленых пасажыраў.

— Старэйшыя хлапчукі і выхавацелі нават праз вокны ўпіхвалі малышоў, каб неяк умясціць усіх нашых сяброўак і сяброў у гэтым эшалоне, — сцвярджае Генрык Малышка.

Пра іх дарогу расказваў ужо дырэктар Самуіл Маркавіч. Вядома, удзельнікі гэтага нечаканага падарожжа маюць свае незабыўныя ўражанні. Г. Малышка, для прыкладу, мяркуе таксама, што кіраўніцтва Друскеніцкага піянерскага лагера першапачаткова рашыла адвезці дзяцей дамоў, у Беласток. Беласток быў захоплены акупантам на пяты дзень гэтай вайны. Але доступ да яго фашысты адрэзалі ўжо ў нядзелю, 22 чэрвеня, разбамбіўшы шматлікія масты і дарогі. Заставаўся адзін напрамак — на ўсход, цераз Баранавічы на Мінск. Дырэктар Пеўзнер быў перакананы, што такім чынам выратуе дзяцей, давераных яму ў апеку. І ён дабіўся таго, што друскеніцкі лагер накіравалі на ўсход, чым далей ад фашысцкай навалы. Ніхто ж тады не думаў, што гітлераўская армія дабярэцца аж да Масквы і Сталінграда. Усе былі ўпэўнены, што пройдзе дзень-два і Чырвоная Армія збярэцца ў магутны жалезны кулак ды пагоніць карычневую гадзіну аж у яе берлінскае логава. Сталася інакш. І аб гэтым пагутарым мы наступным разам.

**Віктар Рудчык**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# „ВЯСЁЛЦЫ" —30 ГОД

Беларускі дзіцячы часопіс „Вясёлка", які выдаецца ў Мінску на Беларусі, ведаюць добра ўсе дзеці ў Польшчы, якія вывучаюць беларускую мову. „Вясёлка", побач з нашай „Зоркай", стала настольнай чытанкай у многіх школах Беласточчыны. Яе чытаюць на ўроках, з яе развучваюць вершы, каб выступіць з імі на школьных урачыстасцях, ахвотна чытаюць казкі, апавяданні, весяляцца разам з „Вясёлчынымі" героямі або шкадуюць іх, калі ў казцы нешта не ўдаецца.

„Вясёлка" прыйшла да дзяцей ранняй вясною трыццаць год назад, парадавала дзіцячыя сэрцы добрым родным словам і каляровымі малюнкамі.

Дарэчы, можа яшчэ не ўсе дзеці ведаюць, што вясёлкай беларусы называюць тую цудоўную з'яву прыроды, калі пасля веснавога або летняга цёплага дажджу рантам над зямлёю завісае шматколернае карамысла, ідэальны паўкруг на паўнеба, які зіхаціць усімі колерамі ад сіняга праз зялёны, жоўты і чырвоны аж да фіялетавага. І ў гэтай каляровай дузе зіхацяць бісерам кропелькі дажджавой вады. Гэта і ёсць вясёлка.

А часопіс „Вясёлка" так назвалі яго аўтары таму, што хацелі, каб ён быў заўсёды цікавы, вясёлы і радаваў дзяцей сваім паяўленнем.

У гэтых днях „Вясёлка" святкуе сваё трыццацігоддзе. „Зорка" жадае ёй быць, як і раней, цікавай, каляровай, багатай цікавымі творамі. Няхай яе заўсёды з нецярплівасцю чакаюць дзеці, а пісьменнікі пішуць для яе свае самыя лепшыя творы.

Віншуем Цябе,
дарагая „Вясёлка"!
Жадаем 100 год
ды прыгод яшчэ столькі!
Мы разам з Табой
здабываем пяцёркі!
Прымі прывітанні
ад нас
і ад „Зоркі"!

Беластоцкія чытачы „ВЯСЁЛКІ" і „ЗОРКІ"







У апошні дзень лютага, калі пасля нейкай, здавалася б, адлігі, вярнулася зноў зіма з вялікімі марозамі, „Зорка" наведала дзве школы: у Храбалах і ў Новым Корніне. У Храбалах дзеці ўжо другі год вучацца ў новай прасторнай школе. Класныя залы залітыя сонцам. Яго праменьчыкі скачуць-весяляцца на тварах дзяўчатак і хлопчыкаў. У васьмікласнай школе вучыцца 105 дзяцей з Храбалоў, Гацькоў, Грыневіч Малых, Рэпнева, Кнаразоў, Дзяніскаў і Плёскаў. Дырэктарам школы — Аляксандр Філіманюк.

У Новым Корніне новая школа толькі будуецца. Стаяць ужо цагляныя сцены. Будзе вялікая. А пакуль што 63 вучняў з Новага Корніна, Навасадаў, Чыжыкаў, Трывежы і многіх калоній Новага Корніна вучацца ў старым, цесным будынку. Па плану новая школа мае быць гатовай прыняць сваіх вучняў у 1988 годзе. Дырэктарам тут Канстанцін Лапінскі.

Аб тым як мы сустракаліся з настаўнікамі і вучнямі напішам у бліжэйшых нумарах „Зоркі". Сёння — два здымкі з гэтых сустрэч.



Вельмі мілая і багатая сустрэча ў нас адбылася ў школе ў Храбалах (Бельская гміна). Здымак, які вам прадстаўляем, вельмі цікавы: на ім толькі вучні, якія маюць пяцёркі па беларускай мове. Добрыя, радасныя беларукія дзеці!

Фота Я. Чэрнякевіч

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

Васіль Вітка

### ЛАСТАЎКА
(фрагмент)

Ластаўчыну мову
Я таксама знаю
І ад слова ў слова
Так перакладаю:
„Шатавіла-матавіла
Па-нямецку гаварыла,
Пела па-турэцку,
Плакала па-грэцку.

З носіка — шыльца,
А з хвосціка — вільца,
Спадыспаду — палатно,
На апашках шоўк, шоўк.
Зазірнула я ў гумно,
Дзюбачкай пічоўк, шчоўк.

Як у вырай адлятала,
Шмат дабра вам пакідала,
Не ўзяла ні жменькі.
Прыляцела, паглядзела —
Няма нічагенькі:
Усё чыста пералушчылі,
Перацёрлі, ператрушчылі".
Прыцемак спусціўся
На траву, на краскі,
Так я захапіўся
Сваёй байкай-казкай.



Артур Вольскі

### ГРАК-БЯДАК

З выраем
Расстаўшыся сваім,
Па сумётах
Сметнікаў і звалак
Грак-бядак
Блукае паміж галак,
Непрывыклы
Да айчынных зім.
— Да адлігі першай
Мне б дажыць.
А тады ўжо,
Мабыць, не загіну...
Лепш па снезе
З галкамі кружыць,
Чым ляцець па сонца
На чужыну.



Васіль Ганушчак

### ЛІС І РЫСЬ

Жылі ў лесе на гары
Рысь старая — Ліс стары.
Кожны з іх, вядома, ласы
Быў штодня пад'есці мяса.
Абурыўся неяк Ліс:
„Раз ты — Рысь,
То еш свой рыс!"
І пачуў наш Ліс ад Рысі:
„Калі ў лесе
Усе Лісы,
Бы той бубен, будуць лысы, —
З'есць тады Рысь рыс!"

Пераклад з украінскай
Уладзімір Васілевіч

## НЕДАВЕРЛІВЫ КАСАНДР

*Міфалагічная байка*

Дажыў Касандр да валасоў сівых,
А звычак не пазбавіўся сваіх.
І дзіўна, чым ён болей жыў цяпер,
Тым болей умацоўваўся ў Касандра недавер
Да самых блізкіх родных, з кім ён жыў,
Да тых, хто акружаў і з кім дружыў,
Ці выпадкова сустракаў каго...
„Сустрэўся? — ён пытаўся. — А чаго?"
Не давяраў ён жонцы з першых дзён,
Бо здрадніца, заманьвае ў палон
Сваёю абаяльнасцю мужчын.
І хоць на тое не было прычын,
Ён вымераў на жонцы сілу,
Пакуль не звёў яе ў магілу.
З такім жа недаверам да сыноў
Ён ставіўся. І зноў, і зноў
Ён дакараў, што ў яго не дзеці — чэрці,
Якія прагнуць яго смерці,
Каб потым ўсё дабро, што змог Касандр
нажыць,
Паміж сабою падзяліць.
Не вытрымалі гэтакага дзеці
І разбрыліся, хто куды, па свеце.
Яму казалі:
„Што ж ты натварыў?
І родных, і знаёмых затравіў.
Адумайся, даверся людзям".
А ён: „Не веру. Як хачу — так будзе!"
Так жыў Касандр адзін, і вось аднойчы
Дом загарэўся ноччу.
„Ратуйся!" — стукаюць людзі ў вокны,
дзверы.
А ён і тут ім не паверыў.
І каб ніхто не дакучаў і кожны адчапіўся,
Залез пад коўдру, з галавой накрыўся.
Калі ж ад дыму у пакоі стала млосна,
Ён ратавацца кінуўся, ды было позна...

**Уладзімір Праўдасуд**

— А мой муж дэтэктываў начытаўся.

# НІЎКА

**З суседскага агародчыка**

### НОВАЯ КВАТЭРА

Атрымаўшы новую кватэру, паклікаў Іван свайго прыяцеля, каб праверыць гукаізаляцыю сцен.

— Ну, — кажа прыяцель, — ідзі ў суседні пакой і нешта крычы.

Пайшоў Іван за сцяну і крычыць:

— Агоў, ты мяне чуеш?!

— Не толькі чую, а і бачу, — адказвае прыяцель.

### ЛЕПШ

Удаве прысніўся ноччу нябожчык муж.

— Як жывецца, Паўло? — нібы пытае яго ўдава.

— Добра! Куды лепш, чым да смерці.

— Дык ты ў раю, значыць?

— Не, у пекле.

### У СУДЗЕ

— Прысягаю, пане суддзя, што я не вінаваты, — клянецца задрыпанец!

— А вы былі ўжо калі-небудзь асуджаны? — пытаецца суддзя.

— Ніколі! — адказвае падсудны. — Гэта мой першы крадзеж.

### НАШЫ ДЗЕЦІ

Міколка не хоча есці супу.

— Еш неадкладна, а то бабу-ягу паклічу! — злуецца маці.

— А ты думаеш, яна яго захоча есці?

### НЕПРЫКМЕТНА

Размаўляюць двое аўтааматараў.

— Мне больш за ўсё падабаецца ездзіць у тумане, — расказвае адзін.

— Але ж гэта небяспечна, — гаворыць другі.

— Затое ніхто не бачыць.

Быў прыхільнікам толькі ўласных талентаў...

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Тата! А хто гэтыя „нясуны"? — пытае ў бацькі малы Юраська.

— А гэта, сынок, такія людзі, што нясуць дадому з працы ўсё, што ім трапляе пад рукі.

— А тыя, што вязуць машынамі, хто яны? Вязуны?!

✻

Паліцэйскі затрымаў двух п'яных шатландцаў і даставіў іх у паліцэйскі суд.

— А дзе трэці? — грозна спытаў суддзя.

— Які трэці?

— Які за вас плаціў.

✻

Малады чалавек пытае ў кніжным магазіне:

— У вас ёсць кніга „Як стаць мільянерам за 14 дзён?".

— Калі ласка. Толькі разам з ёй вельмі рэкамендую набыць Крымінальны кодэкс.

— У вас што выдаліў хірург?
— Дзве тысячы франкаў!

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### ПРАБЛЕМЫ І РАШЭННІ

Клеіць паштовыя маркі языком нязручна. Рашэнне гэтай праблемы знайшлі ў гор. Мухавічах. Маркі тут прадаюць у намочаным выглядзе.

### „З ЖЫЦЦЯ АДНАКЛЕТАЧНЫХ"

— так назваў біёлаг М. Зайчук сваю шматтадовую працу, прысвечану назіранню за жыццём суседзяў з лесвічнай клеткі. Закончыўшы працу, малады вучоны прадставіў яе на суд грамадскасці.

### ПАГАВАРЫЛІ

Мы разам стаялі ў гардэробе. Яна — па сваё паліто, я — па сваё. Яна выпадкова штурханула мяне, тут жа азірнулася, сказала:

— Малады чалавек, а такі недалікатны. Да таго ж з голай галавой. Чаму вы штурхаецеся?

Я маўчу. Толькі думаю: чаго гэта яна так?

— Чаго вы штурхаецеся? — зноў пытаецца яна.

Я зноў маўчу.

— Чаго вы штурхаецеся? — ужо амаль крычыць яна.

Я не вытрымліваю, кажу:

— Нахабнасць — другое шчасце...

А яна:

— Не трэба кідаць гучнымі фразамі!

Я маўчу.

А яна:

— Вы хам.

Я маўчу.

А яна:

— Вы ідыёт.

Я маўчу.

А яна мяне за гальштук хапае і крычыць:

— Падонак!

Тут ужо я не вытрымаў...

І яна міліцыю выклікала...

**Уладзімір Цвяткоў**

# Курёзы

### ШУМ І ЭЛЕГАНТНАСЦЬ

Вулічны шум не падабаецца нікому, дакладней, амаль нікому, таму што жыхары заходніх раёнаў Балівіі — выключэнне з правіла. Для іх адзін з відаў шуму проста становіцца крытэрыем элегантнасці. Але не шуму, а стуку — пастукванне драўляных падэшваў аб тратуар. Злавён індзейцы насілі абаркас і ахотас — разнавіднасці сандаляў з сырамятнай скуры на драўлянай падэшве. Ходзяць у іх і цяпер — гэтаму абутку няма зносу на камяністых пласкагор'ях Балівіі.

На аснове індзейскіх сандаляў у эпоху іспанскага панавання былі створаны сапатыльяс (туфлікі). Робяцца яны са скуры і падбіваюцца драўлянымі або металічнымі цвічкамі. І вось праз ранішнюю дрымоту жыхары дамоў чуюць характэрнае рытмічнае пастукванне — гэта ідуць чалітас (вулічныя гандляркі-разносчыцы). Сапатыльяс — прадмет іх асаблівага клопату. Яны ведаюць, што стук туфлікаў — гэта не вульгарныя вулічныя дэцыбелы, а крытэрый элегантнасці, амаль музыка.

# Між намі

**У вялікіх людзей — вялікая любоў, у дробных — вялікі гнеў.**